ГАЗЕТА З БЕЛАРУСІ

# ГОЛАС РАДЗІМЫ

ВЫДАЕЦЦА З 1955 ГОДА ● ● NO.12 (3132) ● ● ЧАЦВЕР, 2 красавіка, 2009

ШТОТЫДНЁВІК "ГОЛАС РАДЗІМЫ" МОЖНА ЧЫТАЦЬ У ІНТЭРНЭЦЕ: WWW.GOLAS.BY



**Спадарожнікі для падарожнікаў**
Беларускія і расійскія спецыялісты ствараюць калідор бяспекі на аўтамагістралі Брэст-Масква Стар. 2



**У Станькава — да графа Чапскага...**
Міжнародная навуковая канферэнцыя была прымеркавана да 180-годдзя з дня нараджэння Эмерыка фон Гутэн-Чапскага Стар. 3



**Скарбы самабытнасці**
Народныя абрады Мін598шчыны прэтэндуюць на тое, каб патрапіць у Спіс сусветнай спадчыны ЮНЕСКА Стар. 4

ЖЫЦЦЁ СУПОЛАК

# І ў Іркуцку гукалі вясну…

## Народныя традыцыі адраджаюць беларусы Прыбайкалля

Спрадвеку нашы продкі імкнуліся жыць у ладзе з прыродай: прыслухоўваліся да яе шматстайных галасоў, адчувалі перамены ў навакольным свеце. Напрыклад, спрабавалі дапамагчы маладой вясне пераадолець уладарства халоднай зімы. Свята "Гуканне Вясны" і цяпер адзначаецца ў пару, калі з выраю вяртаюцца птушкі: лічыцца, што яны і прыносяць на крылах цяпло.

"На жаль, многія традыцыйныя абрадавыя святы ў сем'ях нашчадкаў беларускіх перасяленцаў забыліся альбо вельмі трансфармаваліся. Аднак Рэгіянальная грамадская арганізацыя "Іркуцкае таварыства Беларускай культуры імя Яна Чэрскага" ўжо 13 гадоў сістэмна адраджае старадаўнія святы, уласцівыя беларусам", — напісаў у рэдакцыю газеты наш даўні сябар Алег Рудакоў, кіраўнік таварыства. У прэс-рэлізе, падрыхтаваным з нагоды свята, расказваецца, што сёлета абрадавае "Гуканне Вясны" актывісты з Маладзёжнага клуба "Крывічы" правялі 28 сакавіка. Спяваліся прыгожыя песні-вяснянкі, былі карагоды, гульні, вогнішча… Арганізатары зрабілі і арэлі — вельмі важны атрыбут свята, а таксама частавалі гасцей рытуальнай стравай — смажанымі яйкамі. "Мы не проста хацелі паказаць моладзі абрадавае свята, але і заахвоціць нашых суайчыннікаў да працы па зборы і захаванні культуралагічных ведаў, аднаўленні забытых традыцый, перадачы нацыянальнага гістарычнага вопыту сваім нашчадкам", — піша Алег Рудакоў.


БЕЛТА

Гукалі сёлета вясну і ў Музеі народнай архітэктуры і побыту, што непадалёку ад Мінска

# На абсягах культурнай прасторы

## У Кіеве з'явіцца помнік знакамітаму ўраджэнцу Беларусі

Дзмітрый Альфер

У час святочнага вечара з нагоды 195-годдзя з дня нараджэння Тараса Шаўчэнкі пасол Украіны Ігар Ліхавы з удзячнасцю ўзгадаў, што ў Беларусі пастаўлена шэсць помнікаў Кабзару. Тады як на Украіне пакуль няма манумента ці скульптуры ў гонар таго дзеяча беларускай культуры, чыя творчасць стала свайго роду візітнай карткай краіны.

І вось украінскі бок выступіў з ініцыятывай паставіць у Кіеве помнік аднаму са знакамітых сыноў беларускай зямлі. Гэтая прапанова была агучана культурным дзеячам, старшынёй Украінскай сусветнай Рады Дзмітром Паўлычкам і вядомым паэтам Раманам Лубкіўскім у час іх сустрэчы з Упаўнаважаным па справах рэлігій і нацыянальнасцяў Беларусі Леанідам Гулякам.

Хутчэй за ўсе, па словах Ігара Ліхавога, ва ўкраінскай сталіцы будзе ўстаноўлена скульптура Янкі Купалы ці Францыска Скарыны. "Я думаю, што пры актыўным удзеле шматтысячнай беларускай дыяспары, якая пражывае ва Украіне, помнік будзе пастаўлены, і мы нарэшце пазбавімся такога вось маленькага культурнага дысбалансу" — адзначыў пасол.

Сапраўды, скульптуры славутых землякоў з'яўляюцца звычайна за мяжой дзякуючы актыўнай рабоце дыяспар. Так, помнікі Тарасу Шаўчэнку былі пастаўлены ў Беларусі пры падтрымцы суполак украінцаў. Верыцца, што і этнічныя беларусы, якія жывуць на радзіме Тараса Шаўчэнкі, здолеюць прыкласці намаганні, каб помнікі нашым таленавітым суайчыннікам нарэшце з'явіліся, і не толькі ў Кіеве, але і ў шэрагу іншых украінскіх мясцінаў.


Помнік Адаму Міцкевічу ў Варшаве

Можна прывесці ў прыклад краіны свету, дзе памяць аб славутых беларускіх пісьменніках і паэтах жыве не толькі ў сэрцах тутэйшых грамадзян, яна, як кажуць, навідавоку. Так, у парку горада Манро, што каля Нью-Йорка, стаіць бюст Янкі Купалы (разам, дарэчы, з бюстамі Тараса Шаўчэнкі і Аляксандра Пушкіна). Помнік Францыску Скарыне вышынёй у два з паловай метры знаходзіцца у Празе, ёсць ён і ў расійскім Калінінградзе (былы горад Каралявец), асоба Максіма Багдановіча ўшанавана ў Сочы, Яраслаўлі і Місхоры. Мемарыяльны знак у гонар Яна Скрыгана знаходзіцца ў эстонскімКівіылі. Дарэчы, сярод вядомых на ўвесь свет ураджэнцаў Беларусі больш за ўсіх помнікаў (каля сарака) усталявана Адаму Міцкевічу.

ВЕСТКІ

# Экспанатам знойдзецца месца

Надзея Радзівонава

**Адразу ў некалькіх раёнах Мінскай вобласці будуць адкрыты музеі**

Ужо сёлета ў Лагойску будзе адноўлены музей братоў Тышкевічаў — вядомых археолагаў, гісторыкаў і этнографаў. Новы музей у Валожыне будзе прысвечаны жалезаруднай прамысловасці, у Смалявічах — смале, у Старых Дарогах — старым дарогам.

Актыўная работа па абнаўленні і ўзнаўленні музеяў, рэканструкцыі іх фондаў у Мінскай вобласці праводзіцца пастаянна. Так, новыя экспазіцыі ўжо з'явіліся ў Слуцкім, Капыльскім краязнаўчых музеях, у Любанскім музеі народнай славы, у гісторыка-культурным музеі-запаведніку "Заслаўе", у Івянецкім музеі традыцыйнай культуры. У вёсцы Семежава была арганізавана галерэя ткацтва, у вёсцы Вялешына — музей народазнаўства. А тры гады таму быў рэканструяваны будынак Мінскага краязнаўчага музея плошчай больш за тысячу квадратных метраў.

Сярод створаных экспазіцый асаблівую каштоўнасць прадстаўляюць "Помнікі пісьменства — люстэрка эпохі" (Барысаўскі аб'яднаны музей), "Гандаль і рамёствы ў Нясвіжы ў канцы XIX – пачатку XX стагоддзя" (Нясвіжскі музей), "Дальва: трагедыя, подзвіг, літасць" (мемарыяльны комплекс "Дальва").

# Экскурсіі на выбар

Ірына Трубачэнка

**Дзесяць новых маршрутаў па Гродне распрацуюць турыстычныя фірмы горада**

Акрамя таго, плануецца прамаркіраваць ужо дзеючыя гарадскія турысцкія маршруты, каб чалавек, які прыехаў на экскурсію, атрымаўшы карту-схему, мог самастойна азнаёміцца з гістарычнымі аб'ектамі.

Цяпер экскурсіі па Гродне праводзяцца па дваццаці кірунках. Найбольш папулярныя з іх — "Прагулка па старых плошчах Гродна", "Культурны цэнтр Прынёмання", "Гродна — горад храмаў", "Гродна — горад замкаў", "Горад мемарыяльны".

# Спадарожнікі для падарожнікаў

## Беларускія і расійскія спецыялісты ствараюць калідор бяспекі на аўтамагістралі Брэст-Масква з дапамогай касмічнай сістэмы

Іван Ждановіч

"К табе я ў думках залятаю. І там душою спачываю..." Гэтыя коласаўскія радкі пра родны кут вядомыя нам са школы. Цяпер, аднак, касмічныя і IT-тэхналогіі даюць магчымасць і вачыма аглядаць мясціны, блізкія сэрцу. Неяк мы з сябрам падарожнічалі пры дапамозе камп'ютара ад Стоўбцаў да Нясвіжа. Нёман відаць, лясы — прыгажосць! Потым разглядвалі ваколіцы Клецка: вадасховішча, абрысы старажытнага гарадзішча пры рэчцы Лань, гасцінец на Ляхавічы... Яшчэ настройка — і перад вачыма стужка шашы Брэст-Масква. "Алімпійка", збудаваная да Алімпіяды-80, пазначана на картах і атласах аўтадарог як траса М1. Аўтамагістраль мае працягласць 607 кіламетраў, а яе заходні ўчастак — найбольш запатрабаваны замежнымі аўтаперавозчыкамі шлях па Беларусі. Сотнямі чорных і белых кропак, а таксама прадаўгаватымі лініямі машын-фураў быццам прашыта шэрая лінія шашы на здымках, атрыманых са спадарожнікаў.



Касмічныя спадарожнікі дапамогуць зрабіць шашу Брэст–Масква калідорам бяспекі

Менавіта гэтая траса, дакладней — бяспека руху па ёй у хуткім часе будзе кантралявацца пры дапамозе касмічных апаратаў. Як вядома, у далёкай дарозе ўсялякае здараецца. А па гэтай трасе перамяшчаюцца і вельмі каштоўныя грузы. Дарэчы, пару гадоў таму на адным з касмічных кангрэсаў у Мінску вучоныя Беларусі і Расіі абмяркоўвалі новыя ідэі інтэграцыі касмічных сродкаў і тэхналогій абедзвюх краін. Тады ж грамадскасць упершыню даведалася і пра шматфункцыянальную касмічную сістэму. Цяпер ідзе работа над ёй, гэта вельмі важны складнік трэцяй сумеснай беларуска-расійскай касмічнай праграмы "Космас НТ".

Ідэі вучоных ужо напаўняюцца канкрэтным зместам. У прыватнасці, у дэпартаменце аховы Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі паведамілі, што сучасная навігацыйная сістэмай абсталяваны 50 машын Брэсцкага абласнога ўпраўлення. Менавіта на іх і адпрацоўваецца механізм перадачы сігнала ад транспартнага сродка на спадарожнік, адтуль — на дыспетчарскі пункт у Мінск. Дарэчы, сігнал абнаўляецца кожныя 10 секунд, і на электроннай карце дыспетчару ўвесь час відаць, дзе канкрэтна знаходзіцца аўтамабіль, з якой хуткасцю і ў якім напрамку рухаецца. Акрамя таго, у вадзіцеля ёсць і магчымасць галасавой сувязі з дыспетчарам, і кнопка трывожнай сігналізацыі. У бліжэйшы год бачнымі пры дапамозе навігацыйных прыбораў стануць звыш 600 машын аховы па ўсіх абласцях Беларусі.

Сёння некаторыя міжнародныя аўтаперавозчыкі транспартуюць каштоўныя грузы па "Алімпійцы" пад аховай беларускіх міліцэйскіх патрулёў. У перспектыве іх машыны, як і фуры айчынных "дальнабойшчыкаў", аснашчаныя навігацыйнымі прыборамі, будуць абслугоўвацца беларускім дыспетчарскім цэнтрам. А калі, рухаючыся з Захаду ў бок Масквы, транзітныя аўто пакінуць тэрыторыю краіны, то далей пры дапамозе той жа касмічнай сувязі адсочваць працэс руху будуць ужо расійскія дыспетчары.

І яшчэ. Увесь калідор бяспекі, як яго называюць, а таксама шматфункцыянальная касмічная сістэма запрацуе на ўсю моц пасля таго, як будзе створана беларуска-расійская групоўка спадарожнікаў. Вучоныя ўжо рабілі даклады наконт стварэння сямейства мікраспадарожнікаў "Саюз-САТ". Як вядома, запуск першага беларускага касмічнага апарата (БКА) на арбіту намечаны на канец года. Спецыялісты лічаць, што яго рэсурс значна эфектыўней скарыстоўваць у пары з падобным расійскім спадарожнікам. Таму ёсць праект, паводле якога БКА і расійскі "Канопус" будуць працаваць на сінхронных арбітах, зменьваючы адзін аднаго на касмічнай вахце, як дзень зменьвае ноч.

## Слабы пол набірае сілу

Аксана Шыкуць

**У Мінску расце колькасць жанчын-упраўленцаў. У такіх сферах як адукацыя, культура, мастацтва, навука яны ўжо даўно і грунтоўна пацяснілі мужчын-кіраўнікоў**

Са свайго боку гарадскія ўлады надаюць вялікую ўвагу стварэнню ўмоў для актыўнага прыцягнення жанчын у грамадска-палітычнае жыццё і пашырэння іх прадстаўніцтва ў органах мясцовага кіравання. Напрыклад, у мінскай мэрыі працуе амаль тысяча семсот служачых, з якіх тысяча чатырыста — жанчыны. Пры гэтым кіруючыя пасады падзелены паміж 201 мужчынам і 363 жанчынамі. У цэлым слабы пол складае больш паловы актыўнага працаздольнага насельніцтва Мінска.

Паводле дадзеных статыстыкі, цяпер ў Беларусі 67 працэнтаў дзяржаўных служачых — жанчыны.

## Каб зберагчы спадчыну

**Міністэрства культуры Беларусі вызначылася з помнікамі архітэктуры, у дачыненні якіх запланаваны рэстаўрацыйныя работы**

У прыватнасці, як расказаў кіраўнік упраўлення па ахове гісторыка-культурнай спадчыны і рэстаўрацыі Міністэрства культуры Ігар Чарняўскі, ужо сёлета праводзяцца работы па прыстасаванні пад праваслаўную царкву капліцы пачатку XX стагоддзя ў вёсцы Лясная Слаўгарадскага раёна Магілёўскай вобласці. Будуць адноўлены жывапіс XII стагоддзя ў Спаса-Еўфрасіннеўскай царкве сярэдзіны XII стагоддзя, а таксама Свята-Васкрасенскі сабор ў Клецку — помнік архітэктуры барока XVII стагоддзя.

Таксама ў ліку рэстаўруемых аб'ектаў — славуты Нясвіжскі палацава-замкавы комплекс XVI-XVIII стагоддзяў і Мірскі замак пачатку XVI стагоддзя, палац эпохі рамантызму сярэдзіны XIX стагоддзя ў горадзе Косава Брэсцкай вобласці і царква-крэпасць канца XV – пачатку XVI стагоддзя ў вёсцы Сынковічы Гродзенскай вобласці.



Мастак-рэстаўратар Людміла Яшчанка ў капліцы вёскі Лясная

Рыхтуецца праект па рэстаўрацыі палаца Булгакаў, помніка архітэктуры класіцызму 1830-х гадоў у вёсцы Жылічы Кіраўскага раёна Магілёўшчыны. Запланаваны рамонтныя работы ў інтэр'ерах і на фасадах Барысаўскага Васкрасенскага сабора — помніка дойлідства псеўдарускага стылю канца XIX стагоддзя.

## ВЕСТКІ

## Матэматыка – гэта... весела!

**Больш за 110 тысяч юных матэматыкаў з Беларусі прынялі ўдзел у міжнародным конкурсе-гульні "Кенгуру"**

Гэта адно з самых масавых прадметных спаборніцтваў у свеце, у якім адначасова ўдзельнічаюць школьнікі з сарака краін. За пятнаццаць гадоў правядзення конкурсу свае матэматычныя веды ў ім ужо праверылі больш за шэсць мільёнаў дзяцей. Не выключана, што гульня будзе занесена ў Кнігу рэкордаў Гінеса.

Конкурс-гульня праводзіцца пад эгідай Еўрапейскай камісіі ЮНЕСКА і Асацыяцыі матэматыкаў Францыі. Дэвіз гэтага руху — "Матэматыка для ўсіх", а мэта — абуджэнне ў шырокага кола школьнікаў цікавасці да матэматыкі, дапамога ў пераадоленні ўяўлення аб ёй як аб сумнай, фармальнай або цяжкай навуцы.

У складанні заданняў для юных матэматыкаў у Беларусі прымаюць удзел лепшыя педагогі краіны. Вопыт правядзення матэматычнай гульні паказаў, што навучэнцы з вялікім запалам і задавальненнем вырашаюць цікавыя і займальныя задачы.

## У калекцыі – флора Паазер'я

Сяргей Крохалеў

**Супрацоўнікі кафедры батанікі Віцебскага дзяржаўнага універсітэта падрыхтавалі дакументы на рэгістрацыю гербарыя ў Дзяржаўным рэестры навуковых аб'ектаў**

У калекцыі прадстаўлена больш за тысячу сасудавых раслін, або практычна ўся флора Беларускага Паазер'я. Акрамя таго, яна ўтрымлівае ўзоры больш чым сямідзесяці відаў раслін, уключаных у Чырвоную кнігу Беларусі. Прызнанне гербарыя навуковым аб'ектам, які прадстаўляе нацыянальны здабытак, стане пацверджаннем вялікага значэння фларыстычных доследаў, што праводзяцца ў Віцебскай вобласці, для развіцця батанічнай навукі.

Варта адзначыць, што дадзеныя з шырокай калекцыі ўзораў флоры выкарыстоўваліся пры падрыхтоўцы матэрыялу для ўсіх трох выданняў Чырвонай кнігі Беларусі. Звяртаюцца да гербарыя і пры напісанні навуковых дысертацый, у працэсе доследаў, якія праводзяць вучоныя Нацыянальнай акадэміі навук. Ён таксама незаменны пры правядзенні доўгатэрміновага маніторынгу стану флоры.

У якасці навуковай калекцыі, гербарый кафедры батанікі Віцебскага дзяржаўнага універсітэта пачаў фарміравацца ў пачатку 70-х гадоў мінулага стагоддзя. Дарэчы, самыя першыя ўпамінанні аб вывучэнні флоры Беларускага Паазер'я адносяцца да канца XVIII стагоддзя.

# У Станькава – да графа Чапскага...

## Міжнародная навуковая канферэнцыя, якая прайшла ў Мінску, была прымеркавана да 180-годдзя з дня нараджэння Эмерыка фон Гутэн-Чапскага

Людміла Мінкевіч

Ідэя ўшанаваць памяць нашага знакамітага земляка — вядомага палітычнага дзеяча, навукоўца, нумізмата, бібліяфіла і калекцыянера — належыць Нацыянальнаму музею гісторыі і культуры Беларусі, гісторыка-краязнаўчаму аб'яднанню "Прылуцкая спадчына" і Польскаму інстытуту ў Мінску.

Больш за 25 удзельнікаў выступілі з дакладамі, праектамі, медыяпрэзентацыямі ў першыя два дні канферэнцыі. Сярод іх — гісторыкі, архівісты, археолагі, краязнаўцы, музейныя супрацоўнікі. Здаецца, не засталося ніводнага незакранутага выступоўцамі аспекту адносна роду Чапскіх. У полі зроку апынуліся радавод Чапскіх, жыццё і дзейнасць як самога Эмерыка, так і іншых яго родзічаў, старажытны радавы герб "Ляліва", архіўныя дакументы і кнігі, што звязаны з прозвішчам.

На канферэнцыю завіталі і замежныя госці. Доктар Я. Бодзэк і магістр М. Возьняк выступілі ад Нацыянальнага музея ў Кракаве. Менавіта ў гэты польскі культурны цэнтр у 1884 годзе вымушаны былі па сямейных абставінах выехаць Эмерык фон Гутэн-Чапскі з жонкай Альжбетай. Эмерык, заўзяты нумізмат і збіральнік твораў мастацтва, марыў стварыць там музей. Для гэтага са "Скарбчыка" ў Станькава (спецыяльнага павільёна, які ў 1862 годзе пабудаваў побач з палацам Эмерык для захоўвання сваіх шматлікіх збораў і экспанатаў) былі перавезены ў 134 скрынях у 6 чыгуначных вагонах (!) медалі, нумізматыка, старажытны фарфор і зброя, старая гданьская мэбля, каштоўная бібліятэка (больш за 10000 тамоў) са старажытнымі рукапісамі...


ЛЮДМІЛА МІНКЕВІЧ

Удзельнікі канферэнцыі знаёмяцца з экспазіцыяй у Станькаўскім школьным музеі

Сёння ўсё гэта знаходзіцца ў Кракаўскім Нацыянальным музеі, надаючы яму яшчэ большы гонар і папулярнасць. Чаго варты толькі нумізматычны збор Эмерыка! Як запэўніў Матэуш Возьняк, "134 скрыні" Чапскага ў хуткім часе знойдуць новы прытулак: да 2013 года мяркуецца палац Эмерыка ў Кракаве рэарганізаваць у музей, пра які некалі марыў граф фон Гутэн-Чапскі.

На трэці дзень канферэнцыі яе ўдзельнікі наведалі тыя мясціны ў Беларусі, якія непасрэдна звязаны з родам Чапскіх. У Воўчкавічах усклалі кветкі на магілу Юзафіны, жонкі Ежага Чапскага. У Койданаве зайшлі ў царкву, пабудаваную Чапскім у 1851 годзе, прыпыніліся ля Афонскай іконы Божай Маці. Нарэшце і Станькава — галоўная рэзідэнцыя Эмерыка Чапскага. Тут захаваліся багаты парк, старажытныя гаспадарчыя пабудовы, "Скарбчык", бы невялікі сярэднявечны замак, рамантычная альтанка на беразе ракі Рапуса, рэшткі Свята-Мікалаеўскай царквы, якой цяпер вяртаецца першапачатковы выгляд...

Канферэнцыя падарыла магчымасць больш глыбока і падрабязна пазнаёміцца з родам графаў Чапскіх, дакрануцца да іх спадчыны.

СУСТРЭЧЫ

# Дае яму Смаргоншчына натхненне

## Вядучаму беларускаму фалькларысту Арсеню Лісу споўнілася 75

Навукова-творчых дзялянак у Арсеня Ліса некалькі. Найперш — гэта фалькларыстыка. Ён няспынны ўдзельнік многіх экспедыцый па збіранні скарбаў народнай творчасці. Выдаў манаграфіі "Купальскія песні", "Валачобныя песні" (1989), "Жніўныя песні" (1992), "Каляндарна-абрадавая творчасць беларусаў" (на падставе доктарскай дысертацыі, 1998) і інш. З'яўляецца складальнікам многіх тамоў 50-томнага збору "Беларуская народная творчасць", за што атрымаў Дзяржаўную прэмію Беларусі (1986). Нягледзячы на паважаны ўзрост, вучоны працягвае напружаную даследчую працу ў Інстытуце мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі.

Другая навуковая пасія Арсеня Ліса — заходнебеларуская культура 1920–1930-х гадоў, яе вядучыя прадстаўнікі: вучоны Браніслаў Тарашкевіч, мастакі Язэп Драздовіч, Пётра Сергіевіч, якім ён прысвяціў асобныя кніжкі. Яго кандыдацкая дысертацыя "Народнапаэтычная творчасць Заходняй Беларусі" таксама ўпісваецца ў гэтую тэматыку.

Урэшце — даваенная Вільня, цяперашні Вільнюс, беларусы ў гэтым шматнацыянальным і шматкультурным горадзе. Арсень Ліс быў у сяброўскіх адносінах з пісьменніцай Зоськай Верас, мастаком Пётрам Сергіевічам, удавой Браніслава Тарашкевіча Верай Ніжанкоўскай, сынам Антона Луцкевіча Лявонам, перапісваўся з імі.

Застаецца ў гэтым уступе привесці некалькі асноўных фактаў з біяграфіі Арсеня Ліса. Нарадзіўся ён 4 лютага 1934 года ў вёсцы Вётхава цяперашняга Смаргонскага раёна. Бацька пасля вайны працаваў на чыгунцы, два старэйшыя яго браты ўдзельнічалі ў заходнебеларускім рэвалюцыйным руху, маці таксама садзейнічала ім. Закончыўшы Залескую сямігодку і Смаргонскую сярэднюю школу, будучы вучоны паступіў на філфак БДУ, дзе выкладчыца літаратуры Вольга Казлова зацікавіла яго фальклорам, прапанавала ўзяць тэму дыпломнай працы "Янка Купала і народная песня". Затым працаваў настаўнікам у Шаркоўшчынскім раёне, рэдактарам у Дзяржаўным выдавецтве БССР. І ўвесь гэты час жылі ў душы матчыны песні, народная творчасць роднай Смаргоншчыны. Таму, закончыўшы аспірантуру, ён звязаў свой лёс з акадэмічным Інстытутам мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору.

Днямі Арсень Ліс быў госцем рэдакцыі "Голасу Радзімы". Павіншаваўшы юбіляра з жыццёвай поўняй, я прыгадаў, што мы маем права адзначыць яшчэ адзін маленькі, ужо асабісты юбілей: шасцідзесяцігоддзе нашага знаёмства на вакзале ў Маладзечне, калі мы накіроўваліся — ён са Смаргоні, а я з Гудагая — на пасяджэнне літаб'яднання пры маладзечанскай абласной газеце. Вёў абмеркаванне нашых першых, яшчэ кволых паэтычных і празаічных спроб выкладчык Маладзечанскага настаўніцкага інстытута, потым вядомы вучоны Мікола Ермаловіч.

**— Не памятаю, што тады штурхнула мяне падысці да цябе яшчэ на вакзале. Мусіць, тое, што гаварыў па-беларуску. З табой тады быў яшчэ такі высокі хлопец Барыс Кастаненка...**


ІВАН ЖДАНОВІЧ

Арсень Ліс

— У адрозненне ад нас, Кастаненка ўжо друкаваўся. Мы тады прагна глыталі кожнае слова Ермаловіча, які па чарзе даваў нам час для чытання сваіх твораў, а потым з нашым удзелам дасведчана аналізаваў іх. Калі б не ён, мы не сабраліся б разам, не выйшлі ў людзі.

**— А што яшчэ падштурхнула цябе паступаць менавіта на філфак, заняцца фалькларыстыкай?**

— Найперш маці. Яна была блізкай сваячкай заходнебеларускага паэта Алеся Салагуба з суседняй вёскі Зарудзічы. Сама падбірала да іх вершаў якую-небудзь мелодыю і спявала.

**— Ну вось, выдалі вы каля 50 тамоў "Беларускай народнай творчасці", асэнсавалі яе тэарэтычна ў шасцітомным калектыўным даследаванні. Ёсць кнігі пра паасобных фалькларыстаў. А што далей? Па новым кругу?**

— Чаму ж па новым? Па іншым, рэгіянальным. Мы ўсё збіралі, выдавалі і даследавалі агульна — на народным, нацыянальным узроўні. І пры гэтым заставаліся ў цяні рэгіянальная адметнасць, мясцовыя адрозненні, часта вельмі істотныя, каштоўныя. Валачобныя песні найлепш прадстаўлены ў Падзвінні, а вяснянкі — у Пасожжы, напрыклад. Далёка няпоўна выяўлены і мясцовыя легенды, паданні пра канкрэтныя гару, возера, раку, царкву. У Эстоніі, скажам, выдадзены шыкоўны трохтомнік такіх твораў. Трэба не забывацца, што фалькларыстыка, як і гісторыя, мовазнаўства, літаратуразнаўства, — нацыятворчыя навукі, яны ўплываюць на этнічную ментальнасць.

**— І апошняе пытанне. Сёлета — Год роднай зямлі, а для Смаргоні гэта яшчэ і правядзенне Дня беларускага пісьменства. Якія ў цябе цяпер кантакты з "малой радзімай"?**

— Паважлівыя, творчыя. Я напісаў землякам нямала артыкулаў для раённай кнігі "Памяць". Цяпер вось дапамагаю ім вывучаць ролю мясцовых літаратурна-мастацкіх асяродкаў. А гэта — і Залессе, і Жодзішкі, і Вішнева, і Арляняты, і Шутавічы, і Дабраўляны, і багушэвічавы Кушляны... Я перакананы, што ў Смаргоні павінен стаяць помнік бацьку беларускага Адраджэння Францішку Багушэвічу.

**— На гэтай аптымістычнай ноце давай і завяршым гаворку. Поспехаў табе і ўсім фалькларыстам!**

Гутарыў Адам Мальдзіс

# Скарбы самабытнасці

## Народныя абрады Міншчыны прэтэндуюць на тое, каб патрапіць у Спіс сусветнай спадчыны ЮНЕСКА

**Надзея Радзівон**



Да народных абрадаў ахвотна далучаюцца і гараджане

У прыватнасці, будуць падрыхтаваны матэрыялы для ўключэння ў спіс нематэрыяльнай спадчыны абраду "Шчодрык", што бытуе ў вёсцы Рог Салігорскага раёна, і калектыву "Спеўная традыцыя" з вёскі Морач Клецкага раёна.

Беларусь пяць гадоў таму першай з краін СНД далучылася да Міжнароднай канвенцыі ЮНЕСКА па ахове нематэрыяльнай культурнай спадчыны. У 2007 г. гісторыка-культурнай каштоўнасцю ў краіне прызнаны калядны абрад "Цары" вёскі Семежава Капыльскага раёна, а ў 2008-м — мясцовы песенны стыль выканання традыцыйных абрадавых і неабрадавых твораў аўтэнтычнымі фальклорнымі калектывамі з вёсак Обчын, Закальнае і Ямінск Любанскага раёна. Таксама ў пералік увайшлі два абрады з Гомельскай і адзін з Магілёўскай абласцей.

Работнікі культуры імкнуцца да таго, каб гэтыя абрады патрапілі ў Спіс сусветнай спадчыны. І на тое ёсць важкія прычыны. Калядны абрад "Цары", напрыклад, зарадзіўся яшчэ ў XVIII ст. У той час салдаты і афіцэры рускай арміі хадзілі па вясковых хатах і віншавалі гаспадароў са святам, паказвалі прадстаўленні і прасілі дарункі. Пазней такую традыцыю пераймалі вясковыя дзеці — яны сталі апранацца ў карнавальныя касцюмы, якія нагадваюць ваенную форму (гэтыя персанажы атрымалі мянушку "цары"). Таксама ў калядных паходах удзельнічаюць і мясцовыя героі — Дзед і Баба. Гэты унікальны абрад быў абноўлены ў 1997 г. і праводзіцца па сённяшні дзень, у ім выяўляецца народная творчасць, уклад жыцця жыхароў вёскі Семежава.

Аўтэнтычныя любанскія фальклорныя калектывы "Глыбокія крыніцы", "Жураўушка", "Паваляхі" таксама захавалі народныя традыцыі, абрады, песні, танцы, прыказкі і цяпер знаёмяць з імі слухачоў на розных канцэртах і фэстах. У Год роднай зямлі на Міншчыне будзе надавацца шмат увагі развіццю народнай самабытнай творчасці, каб жыхары не забывалі пра свае карані, традыцыі, якія дайшлі да нас з далёкіх часоў. Дарэчы, сёлета ў фестывальным календары Міншчыны значацца такія святы, як конкурс майстроў ткацтва "Млечны шлях ад рук бабулі", фэст "Фальклорная талака. Купалле", свята-конкурс "Пеўчае поле", фэст нацыянальных культур, свята-конкурс "Беларускі пояс". А ў чэрвені ў Вілейскім раёне пройдзе абласное свята-конкурс майстроў манументальнай драўлянай скульптуры "Сонечная цеплыня дрэва".

# Юныя таленты родам з Полацка

**У эстонскім горадзе Нарве IV міжнародны конкурс маладых піяністаў сабраў амаль 40 выканаўцаў з 8 краін**

Беларусь на конкурсе паспяхова прадставіліся выхаванцы Полацкай дзіцячай школы мастацтваў. Юлія Катлярова ўзнагароджана дыпломам за высокае выканальніцкае майстэрства ў старэйшай узроставай групе, а Мікіта Куляшоў стаў пераможцам сярод самых малодшых удзельнікаў конкурсу.

На цырымоніі ўшанавання пераможцаў, якая праходзіла ў Нарвскім замку, Генеральны консул Беларусі ў Таліне Аляксандр Астроўскі звярнуўся да арганізатараў і ўдзельнікаў музычнага конкурсу з прывітальным словам і ўручыў беларускім піяністам і іх педагогам дыпломы. Гасцей з Полацка цёпла павіншавалі прадстаўнікі нарвскай грамадскай арганізацыі беларусаў "Сябры".

У рамках конкурсу прайшла таксама выстава работ навучэнцаў Полацкай дзіцячай школы мастацтваў "Беларуская маляванка", якая выклікала вялікую цікавасць.

# Чароўная палітра славутага кампазітара

**У Магілёве прайшоў V фестываль музыкі Іагана Себасцьяна Баха "Магілёў — Бахкалегіум"**

У дзень адкрыцця фестывалю ў касцёле святога Станіслава адбыўся канцэрт арганнай музыкі. У ліку твораў, якія выканала салістка канцэртнай залы полацкага Сафійскага сабора Ксенія Пагарэлава, прагучалі папулярная Таката і Фуга рэ-мінор.

Вандраванне ў свет чароўнай музыкі Баха прадоўжылася канцэртам аркестра і хору Магілёўскай гарадской капэлы. Спецыяльна да фестывалю ўдзельнікі капэлы падрыхтавалі тры яркія тварэнні класіка: Трэцюю сюіту для аркестра, Першы Брандэнбургскі канцэрт і Кантату для хору, салістаў і аркестра "Магніфікат".

Фінальным акордам музычнага свята стала выступленне Дзяржаўнага камернага аркестра Рэспублікі Беларусь.

КРЫЖАВАНКА

# Беларусы ў свеце




**Па гарызанталі:**

3. Эдуард ... Географ, этнограф. Народнік, быў высланы ў Якуцію. Склаў слоўнік якуцкай мовы. Ураджэнец Смалявіцкага раёна. Летась споўнілася 150 гадоў з дня яго нараджэння. 6. Натуральная павіннасць у ВКЛ, Рэчы Паспалітай і Расійскай імперыі. 8. ... Полацкая. Асветніца, першая жанчына ва ўсходнеславянскіх землях, прылічаная царквою да ліку святых. 11. Зборнік М. Багдановіча, які выйшаў у 1913 г., паводле слоў паэта, "з друкарні пана Марціна Кухты". 12. Мастак, старшыня аб'яднання беларусаў-мастакоў Балтыі "Маю гонар", кавалер ордэна Трох Зорак Латвіі, адзін з заснавальнікаў таварыства "Сьвітанак", складальнік кнігі "Мінск на старых паштоўках". 13. Мянушка Мікалая Крыштафа Радзівіла, які першым з Беларусі падарожнічаў па Егіпце ў 1582–1584 гг. і напісаў кнігу-дзённік. 16. Вялікі натуральны або штучны рэзервуар. 17. Наркевіч-.... Прыродазнавец, медык з роду Касцюшкаў. 18. Тэатральная галёрка (разм., састар.). 19. Саманазва краіны, якую ўжывала ў зносінах з еўрапейскімі краінамі Тайскае каралеўства Тайланд да 1939 г. 21. Руляўое кола на судне, самалёце, камбайне. 23. Асноўная адзінка рэгіянальных стратыграфічных падраздзяленняў (геал.) 24. Частка воднага покрыва Зямлі, па ёй неадночы падарожнічаў нашчадак беларусаў Юрый Сянкевіч, вядучы тэлепраграмы "Клуб кінападарожнікаў". 27. Геолаг, географ, рэвалюцыянер, удзельнік двух экспедыцый на поўнач Якуціі. Яго імем названы мыс на востраве Бальшавік. Ураджэнец Случчыны. 28. Рад або некалькі радоў калон. 29. Навука, вялікімі спецыялістамі ў якой былі ўраджэнец Міншчыны Андрэй Вількіцкі і яго сын Барыс. Абодва даследавалі Поўнач Сібіры і Паўночны Ледавіты акіян, імем Барыса названы праліў і востраў у Карскім моры.

**Па вертыкалі:**

1. Юльян ... Ураджэнец Брэстчыны. Пісьменнік, гісторык, падарожнік, удзельнік паўстання Т.Касцюшкі. Аўтар кнігі "Падарожжа па Амерыцы 1797–1807". Летась споўнілася 250 гадоў з дня яго нараджэння. 2. Кіраўнік нацыянальна-вызваленчага паўстання 1794 г. Яго імем названы горад у штаце Місісіпі (ЗША), акруга ў штаце Індыяна (ЗША), самая высокая гара ў Аўстраліі. Ураджэнец Брэстчыны. 4. Частка слова, або словаўтваральная марфема. 5. Імя вядомага геолага, географа, ураджэнца Віцебшчыны Чэрскага. Яго імем названы хрыбет у Якуціі, гара, горад у Ніжнекалымскім раёне, краж у Забайкаллі, даліна ў Саянах. 6. Вядомы астраном, геафізік, даследчык Арктыкі. Герой Савецкага Саюза, ураджэнец г. Магілёва. Яго імем названы востраў у Карскім моры, мыс на ўзбярэжжы Чукоцкага мора, кратэры на Марсе і Месяцы, малая планета. 7. Пачатак дня. 9. Адольф ... Падарожнік, пісьменнік, ураджэнец Нясвіжа. За ўдзел у паўстанні 1830–31 гг. быў сасланы ў Сібір. Яго падарожныя нататкі сабраў і выдаў кнігай брат Яўстафій. 10. Імя Кавалеўскага, прыродазнаўца, заснавальніка палеанталогіі, ураджэнца Віцебшчыны, мужа матэматыка Соф'і Кавалеўскай. Ажыццявіў падарожжа па Еўропе і Паўночнай Амерыцы. 14. Варыянт імя вядомага геолага, вучонага-даследчыка Дамейкі. Яго прозвішча маюць горад, рабочы пасёлак у Чылі, ланцуг гор у Андах, мінерал (дамейкіт), кветка. 15. Зменшаны чарцёж паверхні Зямлі. 18. Саламея ... Лекарка, асветніца, падарожнічала па многіх краінах свету. Аўтар дзённіка-кнігі "Авантуры майго жыцця", ураджэнка Навагрудчыны. 20. Азіяцкая краіна, па якой шмат вандраваў географ, падарожнік М. Пржавальскі, бацька якога – ураджэнец Віцебшчыны. Яго імем названы горад, хрыбет, мыс на Алясцы і інш. аб'екты. 21. Загадка. 22. Вялікая маса снегу, лёду, якая спадае з гор. 25. Назва судна, на якім удзельнічаў у Палярнай экспедыцыі географ, заолаг, падарожнік з Аршаншчыны Аляксей Бялыніцкі-Біруля. 26. Ударны музычны інструмент, які ўжываецца і для падачы сігналаў.

**Падрыхтаваў Лявон Целеш**

**Адказы на крыжаванку**

**Па гарызанталі:** 3. Пякарскі. 6. Шарварак. 8. Ефрасіння. 11. "Вянок". 12. Целеш. 13. Сіротка. 16. Чаша. 17. Ёдка. 18. Раёк. 19. Сіам. 21. Штурвал. 23. Світа. 24. Акіян. 27. Валасовіч. 28. Каланада. 29. Геадэзія.

**Па вертыкалі:** 1. Нямцэвіч. 2. Касцюшка. 4. Суфікс. 5. Іван. 6. Шміт. 7. Раніца. 9. Янушкевіч. 10. Уладзімір. 14. Ігнат. 15. Карта. 18. Русецкая. 20. Манголія. 21. Шарада. 22. Лавіна. 25. "Зара". 26. Гонг.

**Заснавальнік:** Рэдакцыя газеты «СБ»
**Рэдактар** Віктар Харкоў
**Адрас:** пр. Незалежнасці, 44, Мінск, 220005
**Рэгістрацыйнае пасведчанне № 61**
**Тэлефон рэдакцыі:** +375 17 288—12—80; факс: +375 17 288—12—80
**Бюро па рэкламе:** Тэл. +375 17 290—60—11
**E—mail:** golas_radzimy@tut.by
Газета надрукавана ў Рэспубліканскім унітарным прадпрыемстве «Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
**Аб'ём выдання:** 1 друк. арк.
**Тыраж:** 2000
**Заказ:** 373